Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 30—(70). Вільня, 23 верасьня 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



Wilno
ul. Uniwersytecka 9
red. „Przegląd Wileński"

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $1/2$ — 65, за $1/4$—35, за $1/8$—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Камуністы і вайна.

Пасьля шасьцёх тыдняў закончыў свае нарады Міжнародны Камуністычны Кангрэс у Маскве, прымаючы аднагалосна новую праграму Камуністычнае Партыі. Гэнэральным дакладчыкам у справе праграмы выступіў Бухарын. Аснаўныя тэзы яго дакладу зьяўляюцца тым фундамэнтам, на якім пабудавана новая праграма Камуністычнае Партыі.

У дакладзе Бухарына зьвяртае на сябе ўвагу прызнаньне яго, што сусьветная камуністычная рэвалюцыя ў сучасны момант немагчыма. Шлях, які вядзе да яе, такі:

Аграмадны ўзрост капіталістычнай прадукцыі, якая значна перарастае прадукцыю даваенную, ужо цяпер выклікае шмат непаразуменьняў паміж паасобнымі капіталістычнымі дзяржавамі ў барацьбе іх за рынкі збыту. Змаганьне гэтае з часам будзе прымаць усё больш і больш вострыя формы і ў канцы вывьецца ў форму аружнай барацьбы паміж паасобнымі дзяржавамі і тады толькі створацца адпаведныя ўмовы для сусьветнай рэвалюцыі.

Гэткім чынам з дакладу Бухарына відаць, што сам факт трыумфу камуністычнае партыі на абшарах быўшай Расеі яшчэ не патрапіць выклікаць сусьветнай рэвалюцыі, як аб гэтым адзінаццаць год таму назад крычалі бальшавікі на ўвесь сьвет.

Мала таго. Нават пасьля 11-х год істнаваньня Саветаў іх спробаў увядзеньня камуністычнага ладу, Бухарын прыходзіць да перакананьня, што наагул нават першы этап да ажыцьцяўленьня камуністычнага раю — сусьветная рэвалюцыя— немагчыма ў сучасных варунках.

І толькі цыкл крывавых войнаў, яшчэ больш крывавых і страшных у сваіх рэзультатах, чым была тая вайна, якую мы нядаўна перажылі і рэзультаты каторай як цяжкая хмара і дагэтуль яшчэ вісяць над народамі Эўропы; —толькі гора і нэндза, якая прыдзе за імі, толькі яны прынясуць з сабою ажыцьцяўленьне Бухарынскіх сноў аб сусьветнай рэвалюцыі!

Досьледы над прычынай войнаў, якія ў сваім дакладзе рабіў Бухарын, вядуцца даўно. Найлепшыя вучоныя, найлепшыя людзі ўва ўсім сьвеце пасьвячаюць шмат працы і часу гэтым досьледам. Досьледы гэныя зазвычай маюць на мэце знайсьці лякарства на найвялікшую хваробу чалавецтва, якой зьяўляецца аружнае змаганьне народаў.

Іначай справа выглядае, калі за досьледы гэтыя бяруцца фанатыкі камунізму.

Альфай і омэгай камуністычнае веры ёсьць зьдзейсьненьне камуністычнага ідэалу. З гэтага пункту гледжаньня яны ацэніваюць кожнае соцыяльнае і эканамічнае зьявішча. Пры досьледах над гэтымі зьявішчамі яны ставяць адно толькі пытаньне: ці тое, ці іншае зьявішча спрыяе рэалізацыі камуністычнага ідэалу, ці шкодзіць яму. Калі шкодзіць — трэба з ім змагацца; калі не, а асабліва калі памагае, трэба патураць гэтаму зьявішчу, трэба прылажыць усе сілы, каб спыніць перашкоды, якія могуць ляжаць на шляху яго разьвіцьця.

Зразумелая рэч, што ад гэтых фанатыкаў, прызнаўшых раз, што вайна ёсьць тым зьявішчам, якое, паводле думкі Бухарына, створыць пажаданы грунт для сусьветнай рэвалюцыі, мала таго: прызнаўшых, што *толькі войны* могуць выклікаць сусьветную рэвалюцыю, што бяз гэтых войнаў наагул сусьветная рэвалюцыя немагчыма, сьмяхотна было-б чакаць якіх небудзь высілкаў у кірунку змаганьня з гэтым вялікім злом.

Што для прававернага камуністага гора, нэндза і нядоля, якія нясе з сабою кожная вайна, асабліва для сялян і работнікаў, ад імя каторых гэтак любяць гаварыць бальшавікі?

Што для яго інтарэсы і доля шырокіх працоўных гушчаў у параўнаньні са „сьвятая сьвятых" іх камуністычнае веры?

Як камуністыя могуць змагацца за мір, як

яны могуць працаваць для спыненьня гэтай прыбліжаючайся паводле іх думак крывавай буры, калі бяз іх, бяз гэтых войнаў немагчыма сусьветная рэвалюцыя? Войнаў гэтых яны жадаюць, войнаў гэтых яны чакаюць, для выклікаяьня гэтых войнаў яны гатовы накіраваць усе свае высілкі — бо за імі ідзе сусьветная рэвалюцыя, аб каторай песьні пяюць іх паэты, а за ею камуністычны рай.

І гэткія адносіны бальшавікоў да будучых гістарычных падзеяў знайшлі свой водгук на нядаўна зачыненым камуністычным кангрэсе ў Маскве.

Тыя самыя людзі, якія адзінаццаць год таму назад кінулі ў змучаныя трохлетняй вайною масы Расеі лёзунг „проч з вайною“, „вайна вайне“, сяньня прызнаюцца ў поўным банкрутстве тэорыі і практыкі комунізму, хапаючыся, як утапаючы за саломінку, трыумфу камуністычнае ідэі пасьля крывавай бойні народаў.

Некім жахам вее пры глыбейшым аналізе ўсяго таго, што казалася на гэтым кангрэсе. Здаецца іншы раз, што гэта быў зьезд ненармальных, псыхічна хворых людзей, нейкіх садыстаў, каторыя таксама, як калісь рымскі імпэратар Нэрон, шкадаваўшы, што Рым ня мае аднае галавы, каб адразу можна было-б адрубіць галаву ўсяму Рыму, — гатовы шкадаваць, што ўсё чалавецтва ня мае аднае толькі галавы, каб адрубіўшы яе, адным махам ачысьціць шлях для камуністычнага будаўніцтва—альбо нейкіх фанатыкаў, каторыя таксама, як калісь Інквізыцыя аддаваўшая дзесяткі тысяч бязвінных людзей на страшныя мукі ў імя трыўмфу навукі Хрыста, навукі, якая казала любіць бліжняга свайго, як сябе самаго, так камуністы абракаюць на страшныя мукі голаду і нэндзы працоўныя масы ўсяго сьвету ў імя трыумфу лепшай, шчасьлівейшай долі гэтых масаў.

Бязумоўна працоўныя масы зробяць адзіны магчымы вывад з тэорыі і практыкі збанкрутаваўшага камунізму і адвярнуўшыся ад яго пойдуць іншым шляхам да лепшае, ясьнейшае долі.

## Сельска-Гаспадарчая Выстаўка на Паўночных Таргох.

### Статыстычныя даныя.

На Сельска-Гаспадарчай Выстаўцы, апрача багатай колькасьці экспанатаў месьціўся цэлы рад табліц, які ў цыфрах паказываў развой сельскага гаспадарства і сельскага промыслу на нашых землях, асабліва ў Віленшчыне. Прыгледзімся да гэтых табліц бліжэй, асобна ў кожнай галіне.

**Аддзел лясны.**

Табліца паказывае нам, што Польшча ў Эўропе займае па колькасьці лесу 6-ае мейсца, маючы залесенага абшару 23%. Калі пяройдзем да Віленшчыны, то трэба прызнаць, што яна ў лясной гаспадарцы разьвіваецца, аб чым сьведчыць колькасьць пароблйных плянаў лясных гаспадарак, якія пазваляюць на рацыянальную эксплёатацыю лесу.

У 1923 годзе зроблена плянаў на 79.275 һа, лічба гэтая значна павялічываецца ў 1927 годзе ў зьвязку з распараджэньнем Прэзыдэнта ад 24.VII.1927, якое забараняе эксплёатаваць лес без пляну.

Далей, як відаць з картаграмы вывазу лесу за граніцу, ён усьцяж ідзе ў кірунку павялічэньня, што належыць да дадатных зьявішч, да тае пары, пакуль гэта не пачне шкодзіць правідловай лясной гаспадарцы, але гэтаму стаіць

---

## Успаміны з Пэрсіі.

(Гл. № 20 „Б. Д.“).

Тэгэран — сталіца Пэрсыдскага гаспадарства і зімовая рэзыдэнцыя пэрсыдскага караля, альбо, як называюць яго,—шаха.

У Тэгеране памяшчаюцца ўсе цэнтральныя ўстановы Пэрсыі, мэджыліс, міністэрствы і г. д. У ім знаходзіцца адзіная на ўсю Пэрсыю ваенная школа і ваенна-мэдыцынская акадэмія.

Настаўнікамі, як ў школе, таксама і ў акадэміі — расейскія ахвіцэры і дахтары.

У Тэгеране давялося мне быць толькі два разы праездам у горад Кум і дзеля гэтага я ня мог бліжэй пазнаёміцца з жыцьцём гэтага цікаўнага і багатага гораду.

Базар-рынак займае ў ім аграмадную плошчу і ўвесь закіданы рознымі таварамі.

Ужо з аднаго гэтага можна зразумець, што горад гэты зьяўляецца адным з найважнейшых гандлёвых пунктаў Пэрсыі.

Расейскі паэт Пушкін у сваіх вершах кажа: „У жемчужного фонтана дремлетъ Тегеранъ“. Уяжджаючы першы раз у Тэгэран, мне прыпомніліся гэтыя словы поэта і здаліся дзіўным дысонансам з усім тым, што адразу кінулася ў вочы.

Насамперш нідзе я ня бачыў „фантанаў“, а што да сну, то ўжо мінуўшы ваколіцы гораду, іх дамы, як і ў іншых гарадох Пэрсыі, абкружаныя высокімі глінянымі сьценамі, з-па-за каторых выглядалі вярхоўкі дрэваў, замершых разам з усей ваколіцай у нейкім салодкім, лянівым сьне, прыбліжаючыся да цэнтру гораду я адразу папаў у шум і гоман жыцьця гэтак характэрнага для кожнага вялікага гораду і гэтак далёкага ад сну, аб якім кажа Пушкін. І калі гэныя словы поэта можна зразумець у тым значэньні, што кажучы аб Тэгеране, ўасабляў яго з жыцьцём усяго пэрсыдскага народу, то словы яго аб фантанах жэмчужных так і засталіся для мяне загадкай.

Праўда, у Тэгеране шмат вады, і то вады сьвежай, крынічнай, праўда, што ў кожным багацейшым доме вы знойдзеце за высокай глінянай сьцяной вадаём, напоўнены гэтак цэннай і любай пэрсам вадою, але-ж фантанаў сапраўды там не багата.

Затое шмат садоў. З кожнага амаль двара, ужо з-па-за сьцяны выглядаюць вярхоўкі дрэваў, а праступіўшы яе вы ўбачыце ўсё харство і ўсё багацьце тэгеранскіх садоў. Асабліва прыгожым паказаўся мне сад расейскага кансульства ў Тэгеране,

Два аграмадныя басэйны напоўненыя чыстай, крынічнай вадою ўтапалі ў моры зелені паўднё-

якраз на перашкодзе распараджэньне Прэзыдэнта з 24.VI.1927 г.

Што да ляснога хімічнага промыслу, то, як відаць з табліц, ён у нас яшчэ ў зачатках.

### Аддзел дзяржаўных гаспадарак.

У галіне працы Інспэктарату дзяржаўных гаспадарак маем дзьве табліцы, адна аб забяспячэньні маемасьці асоб адсутных, другая аб раздзеле дзяржаўных грунтаў на ўсялякія мэты. Аб першай трэба заўважыць, што лічба забеспечаных гаспадарак, гаспадары якіх пасьля вайны не вярнуліся — 1440, сьведчыць вымоўна, што інтарэсы дробных уласьнікаў былі забяспечаны ў поўнасьці.

Цікавейшай для нас зьяўляецца другая табліца; з яе відаць, што Інспэктарат апякаваўся за ўвесь час 84.637 ha, з гэтага 26.640 ha воднае паверхні. З гэтых запасаў на зямельную рэформу пайшло 47380 ha, або 85%, на ваяводзкія аддзелы пасобных міністэрстваў вызначана 4595 ha, на залясеньне і гаспадарчыя дэпутаты 3612 ha, на спэцыяльныя мэты, як школьніцтва агульнае, сельска-гаспадарчае, касьцёл, сельска-гаспадарчыя фэрмы і т. д.—1235 ha, засталося без ніякога спэцыяльнага назначэньня 1375 ha.

### Аддзел рыбнае гаспадаркі.

Маем тут падрабязны плян абшару і глыбіні найвялікшага ў нас і ў Польшчы возера—Нарач, наглядныя табліцы гатункаў і колькасьці рыбы з розных возёраў, апрача таго плян размяшчэньня штучных рыбных гаспадарак на Віленшчыне. Гаспадарак такіх маем 20, якія займаюць разам паверхню ў 436,65 ha, у тым ліку 19 гаспадарак карпаў і адна гаспадарка фарэляў (pstrągów). Штучных рыбных гаспадарак найбольш у павеце Віленска-Троцкім, які мае 12 гаспадарак, займаючы паверхню 197,75 ha.

Цыфры гэтыя, праўда, невялікія, але трэба прыняць пад увагу тое, што перадваенныя гаспадаркі былі зьніштожаны зусім, тое, што маем сяньня, трэба было будаваць ад самых падставаў. На выстаўцы маем гатункі ўсялякіх рыб, асабліва карпы і форэлі (pstragi), якія знаходзяцца ў спэцыяльна прыгатаваным ставе, а таксама ўсялякія прылады для лоўлі рыбы, як старыя, непрыстасаваныя да рацыянальнае гаспадаркі, так і новыя, прывезеныя з фірмы К. Маркоўскі ў Пазнані, якія выкананы паводле найнавейшых вымогаў.

Выстаўлена таксама шмат кніжак з рыбацтва, на ўсялякіх мовах.

Агулам трэба зазначыць, што рыбацтва не стаіць у нас на той вышыні прадукцыі, на якой павінна было-б і магло-б стаяць, бо Віленшчына па колькасьці возёраў стаіць на 1-ым месцы, маючы 70.000 ha на агульны абшар у Польшчы—200.000, займае, значыць, 35%.

Дзейцца гэта ў поўнай меры дзеля таго, што няма яшчэ ўставы аб рыбацтве, якая-б рыбную гаспадарку рэгулявала і не дазваляла-б рабаваць гэтага цэннага нашага багацьця.

### Аддзел сельска-гаспадарчы.

Маем тут цэлы чарод табліц, якія з аднаго боку даюць абраз сяньняшняга стану нашае гаспадаркі, з другога паказываюць шляхі, якімі йдзецца да адбудовы і направы нашага сельскага гаспадарства.

Дзьве табліцы паказываюць нам узрост ужываньня ў нас штучных гнаёў, відаць з іх, што фосфару ўжыта ў 1924 г. — 22900 квінталяў, ў 1926—32500 кв.; паташовых гнаёў у 1924 г.—1700 кв.; у 1926 г.—4200 кв. і азотавых гнаёў—у 1924 г.—550 кв., у 1926 г.—1500 кв.

Далей маем табліцу, якая паказывае нам імкненьне нашых гаспадароў да атрыманьня

---

вых дрэваў, кустоў і расьлін, прыбраных кветкамі, ад каторых ішоў прыемны пах.

Вада ціха гурчала, пераліваючыся недзе з аднаго вадаёма ў другі, парна грэла гарачае сонца, ніводзін подмух ветрыка не варушыў лістоў, ня моршчыў гладкай люстранай тварь вады, у каторай адбіваліся высокія пальмы і чынары, быццам заснуўшыя, быццам думаючыя нейкую сумную думку. Зачараваны край, нейкая казка, альбо сонная зьява!

Але-ж не прыгожасьць і чары тэгеранскіх садоў, не багацьце і абшары тэгеранскага рынку, ня ўрэшце знамяніты Hotel de Frans, без якога ня можа абыйсьціся ніводзін заселены пункт у Пэрсыі, ад каторага ў Тэгеране павеяла на мяне Эўропай у постаці беласьнежных абрусоў, лёкая ў белых рукавіцах, электрычнага вэнтылятара і зусім культурных абставін — усё гэтае не зрабіла на мяне гэткага ўражаньня, як убачаная на выстаўцы ў адной з крамак пляшка з этыкеткай даўно забытага падчас вайны „Пятра Сьмірнова". Так, з-па-за шкла выстаўнога ваконца выглядаў да мяне арыгінальны „Пётр Смірноў, трайной ачысткі".

Хоць я і ня пьяніца, а зайшоў у крамку. Кусаўся „Пётр Смірноў" у Тэгеране: аж тры туманы (больш чым 6 рублёў) трэба было заплаціць за пляшку, але ўсё-ж купіў аж тры пляшкі, зусім ня прачуваючы, які купляю клопат, бо ў Энзэлі столькі ахвотнікаў аказалася паміж маімі таварышамі—афіцэрамі да свайго даўнейшага старога прыяцеля, што амаль не пабіліся за права ўладаньня ім. Прыйшлося гадзіць, паклікаўшы ўсіх на вячэру, на каторай усе тры пляшкі былі выпіты адразу да дна.

Наагул на тэгеранскім рынку спаткаць можна шмат расейскіх тавараў. Цукер, бавалняныя тканіны, вырабы з жалеза і іншыя, усё гэта прывозяць пэрсы з Расеі. Кажуць, ангельцы адчынілі ў Пэрсіі цукраварны завод, але нешта пасьля зачынілі.

Хвабрычная прамысловасьць відаць у Пэрсыі знаходзіцца толькі на пачатку свайго разьвіцьця. У гэтым кірунку працавалі тады ангельцы. Паміж іншымі ў Хамадане закладзена была імі хвабрыка слаўных пэрсыдзкіх дыванаў, але падчас вайны, дзякуючы браку збыту, таксама і яна стала зачыненай.

Жыцьцё ў Тэгеране ўжо носіць пэўны адбітак сучаснай культуры, я-бы сказаў Эўропэізму. У Тэгеране вы знойдзеце газэту на вуліцы, бачыце як і ў нас людзей, занятых чытаньнем яе, спаткаеце разносчыкаў газэт.

Кабеты на вуліцах ня гэтак шчыльна атуляюць сябе, чарды іхнія ня гэтак доўгія і ня гэтак густыя. Відаць, што чарда траціць тамака паволі

ачышчанага зярна. У 1924 г. было 21 пунктаў, дзе зярно ачышчалася, вычышчана 650 кв.; у 1928 г. маем ужо 70 пунктаў, на якіх у першыя паўгодкі ўжо ачышчана 5650 кв.

Відаць таксама ўзрост гурткоў кантролі над гадоўляй быдла.

У 1924 г. гурткоў было 2, сяброў 14, кароў 304,
у 1927 г. „ „ 20, „ 201, „ 3087.

Бачым таксама з табліц узрост удою, як сярэдняга, так і максымальнага (найбольшага),
у 1924 г. сярэдн. удой 2200 літ. у 1 год для чорна-белай расы,
у 1927 г. сярэдн. удой 2720 літ. у 1 год для чорна-белай расы.

Для чырвонай—польскай расы сярэдні ўдой у 1924 г. быў 1200 літ., у 1927—2300 літ.

З далейшых статыстычных даных вынікае, што да адбудовы нашага сельскага гаспадарства многа прычыніўся ўрад, самаўрады і сельска-гаспадарчыя арганізацыі, шляхам дапамогаў.

Грашовыя дапамогі ўраду сельска-гаспадарчым арганізацыям павялічыліся з 86,685 зл. у 1925 г. на 165,888 зл. у 1927 г. У чатыры разы ўзрасьлі пазыкі на пасевы: з 375,000 зл. у 1924 г.—на 1.200.000 ў 1927 г. Павятовыя каапэратыўныя банкі выдалі пазыкаў больш ніж на $1^{1}/_{2}$ мільёна злотых.

Вялікі ўдзел у дапамогах гаспадаром бяруць павятовыя соймікі, даючы на гэта 9,5% усіх сваіх выдаткаў.

Асабліва цікавымі зьяўляюцца табліцы, якія паказываюць, што ўраджай на скамасаваных гаспадарках (хутарох) быў значна вялікшы чым на чэразпалосіцы, а што да бульбы і лёну — дык больш навет чым у дварох.

Апроч усяго вышэйшага трэба адзначыць узрост гадоўлі быдла і коней, гэта сьведчыць аб тым, што наша гаспадарка атрымовывае з гадоўлі даход і мае тэндэнцыю разьвівацца ў гэтым кірунку. Зьменшылася аднак гадоўля авец, якія карысьці даюць у нашых варунках мала.

Цесна лучыцца з гадоўляй быдла развой вэтэрынарыі на нашых землях. Табліцы ў гэтым аддзеле паказываюць, што вэтэрынарыя, пачынаючы ад 1923 году ўсьцяж разьвіваецца, што ясна сьведчыць аб рацыянальным усьведамленьні нашых гаспадароў у гадоўлі ўсялякае жывёлы. Вэтэрынарных пунктаў у 1923 г. было толькі 5, у 1927 г. лік іх узрос да 30.

---

Апроч вышэй абгавораных статыстычных даных у паасобных галінах сельскае гаспадаркі, маем даныя з агульнага развою сельскае гаспадаркі на нашых землях. Маем тут статыстыку з паасобных паветаў, якая сьведчыць, што найбольшы культурны даробак належыцца паветам Дзісьненскаму і Сьвенцянскаму.

У паднясеньні культуры сельскага гаспадарства калясальную работу робяць сельска-гаспадарчыя арганізацыі, дасьледчыя станцыі, якія робяць досьледы, якое збожжа ў нас найлепей родзіць, як найлепш упраўляць наш грунт і сельска-гаспадарчыя школы, якія выгадоўваюць кваліфікаваных гаспадароў, што ізноў прычыняецца да далейшага рацыянальнага развою нашых гаспадарак. Школаў такіх у Віленшчыне знаходзіцца 5: у Лучаі, Букішках, Опсе, Свенцянах і Антовілю (жаноцкая школа).

Досьледных станцыяў маем 2: У Беняконях, якая выгадавала найлепшае жыта, т. зв. беняконьскае і ў Вільні, якая выставіла шмат гатункаў збожжа.

Маем яшчэ аддзел сельска-гаспадарчае каапэрацыі. У 1925 г. было толькі 6 крэдытовых каапэратываў, якія мелі 265 сяброў і выдалі пазыкаў на суму 23.184 зл. Да 1 студня 1928 г. крэдытовых каапэратываў было ўжо 153, сяброў больш за 64 тысячы, выданыя пазыкі даходзяць

---

правы грамадзянства і зьяўляецца толькі некай уступкай звычаю, вельмі шанаванага на правінцыі.

Побач з тыпічнымі пэрсыдзкімі кафэ — хане — вы знойдзеце ў Тэгеране і рэстараны зусім эўрапэйскага фасону. Першае мейсца паміж імі займае Hotel de Frans, аб якім я ўспамінаў ужо.

Апрача пэрсыдзкага шашлыку і іншых нацыянальных смакалыкаў Пэрсыі вы дастанеце тамака добры біфштэкс, антрыкоту, а ўсё прыпраўленае на эўрапэйскі лад. Пасьля доўгай бадзяніны па Пэрсыі ў варунках пазбаўленых прымітыўных вымаганьняў культуры, прышоўшы першы раз у гэты рэстаран на абед — я пачуў сябе быццам у Эўропе.

Вечарам у рэстаранэ гэтым йграе аркестр музыкі, адукаванай па эўрапэйску. І ня ведаю ўжо, ці гэта чыста па эўрапэйску, ці можа рэзультат мешаніны эўрапэйскага з пэрсыдзкім, пры рэстаране ёсьць пакой, у каторым ідзе гульня ў жалезку.

Калі я вайшоў да яго, за аграмадным круглым сталом сядзела душ пятнаццаць. На стале ў спэцыяльнай скрытцы ляжалі карты і гульня ішла ўва ўсю.

Банк трымаў нейкі паважны сурьёзны ягомасьць, прыбраны ў нацыянальную вопратку. Ён відаць прайграў і лічыў кучу манэтаў, ляжачых пры ім на стале. Іх не хапала для заплаты праіграната і ён тады важным рухам далоні паманіў да сябе свайго слугу, які з торбачкай туга набітай грашыма сядзеў у кутку пакою.

Гэта ўжо зусім па пэрсыдзку. Эўрапэец, нават найвялікшы пан, заўсягды грошы носіць сам.

А ў Пэрсыі нават тысяча манэтаў робіць клопаты, і торбу са скарбам носіць слуга. Я прыкмеціў іх некалькі ў розных мясцох пакою. Банка мет разьлічыўся і ігра пачалася далей.

Гулялі ціха, спакойна, бяз выкрыкаў і нэрвацыі. Праўдзівыя джэнтэльмэны. Толькі ад часу да часу перакідаліся славамі і лічбамі „эн, до, гэгэр, пэнч.

Зьвярнуў маю ўвагу нейкі тып, атлетычнай будовы, седзячы за сталом. Адрозьніваўся ён ад іншых сваею сытасьцю і ценкім, пісклівым галаском, як ў кабеты. Валасы на галаве ў яго былі абголены, над губамі і на ўсім твары ані сьледу іх. Нешта дзіўнае і незразумелае для мяне было ў гэтым чалавеку, ажно я пацікавіўся, хто гэта такі.

— Гэта эўнух шаха, — вытлумачылі мне.

У пэрсаў многажэнства ня надта ў модзе і могуць сабе дазволіць яго толькі вельмі багатыя людзі. Але ўсё-ж такі ў той час шах пэрсыдзкі меў 12 жонак і вось я бачыў перад сабою аднаго з іх апякуноў. Шаха тады ня было ў Тэгеране,

да сумы 6.700.000 зл. У гэтым-жа часе лік сельска-гаспадарчых банкаў павялічываецца з 17 да 30, сяброў у іх з 5000 да 14,700, а сума пазыкаў з 854.000 да 2.080.000.

---

## Язэп Мамонька ў Менску.

Віленскія газэты паведамляюць, што лідэр Беларускіх Соцыялістых Рэвалюцыянэраў, (як называў сябе сам Масонька) знаходзіцца ў Менску. Паводле газэтных вестак Мамонька ў жніўні сёлетняга году выехаў з Польшчы ў Латвію, дзе быў арыштаваны, як быўшы старшыня салдацкіх і работніцкіх дэпутатаў у 1917 годзе. Звольнены з-пад арышту Мамонька перабраўся з Латвіі ў Менск, дзе яго з вялікімі авацыямі спаткалі прадстаўнікі бальшавіцкай улады і прафэсіянальных саюзаў.

Паводле гэтых вестак Мамонька заявіў у Менску, што ніколі ён ня быў эс-эрам, а заўсягды заставаўся прававерным староннікам камунізму.

Мамонька мае прачытаць у Менску рад лекцый аб сучасным палажэньні ў Польшчы і ў хуткім часе мае заняць адну з вялікіх пасадаў у савецкіх установах.

Пішучы аб прыезьдзе Мамонькі ў Менск „Dziennik Wileński“ кажа, што вестка гэта зрабіла вялікае ўражаньне на ўсё мясцовае (віленскае) беларускае грамадзянства.

Віленская газэта „Słowo“, падаючы аб гэтым вестку, называе Мамоньку беларускім дзеячом.

Беларускі дзеяч!

Ці-ж сапраўды столькі бруду прыліпла да адраджэнскага беларускага руху, ці сапраўды, гэтак глыбока сягнуў маральны развал беларускага грамадзкага жыцьця, што ёсьць яшчэ людзі, якія могуць думаць, што Язэп Мамонька быў беларускім дзеячом.

Чалавек, уся дзеяльнасьць каторага за апошнія пяць-шэсьць год была пакіравана толькі на тое, каб дастаць грошы, а дастаўшы выпіць чарку гарэлкі, чалавек, які ня маючы грошаў на выпіўку ў кумпаніі камуністых выхваляў камуністычны рай і лаяў увесь беларускі сьвет, каб толькі выпіць за іх грошы чарку гарэлкі, а пасьля за чарку гарэлкі ламаў крэслы на галовах адказных рэдактарраў тых часопісаў, са старонікамі каторых толькі нядаўна выпіваў, чалавек, які ня раз і ня два меў паліцэйскія пратаколы за п'янства, які ўрэшце за скандалы ўчыненыя на п'яную руку, сядзеў пад арыштам, чалавек няздольны да ніякай працы*), чалавек каторага ня прымала ніводная беларуская арганізацыя і каторага ўся эс-эраўская партыя на нашай зямлі складаецца з аднаго яго — не, у гэтым чалавеку беларускае грамадзянства ня бачыла свайго дзеяча.

Ня хочам думаць, што ўзносячы Язэпа Мамоньку на п'едэстал беларускага дзеяча, „Słowo“ хацела апаганіць у шырэйшых колах польскага грамадзянства ўвесь адраджэнскі беларускі

*) Аўтару вядомы зусім аўтэнтычны факт, калі адзін з беларусаў тут ў Польшчы, эжаліўся над горкай доляй гэтага асколка расейскай рэвалюцыі і прыняў яго да працы.

Мамонька прыняў працу бугальтэра. Праз тыдзень часу выясьнілася, што ён гэтае працы ня здоляе, бо ня ўмее. Тады запрапанавана яму была апрацоўка эканамічных матэр'ялаў, датычучых Беларусі. З гэтай працы таксама ня выйшла нічога, ня здолеў. Тады гэты філянтроп запрапанаваў Мамоньцы, каб ён сам падумаў, што ён можа рабіць і да чаго ён здатны, бо дарма, сталаму і здароваму чалавеку, грошай даваць не хацеў.

Праз тры дні Мамонька адказаў, што ахвотна прыняў-бы пасаду... скарбніка.

Ведаючы трошкі характар Мамонькі, ведама, гэты філянтроп ня мог даручыць яму гэтай працы.

---

быў ён у сваей летняй рэзыдэнцыі і эўнух падчас адпачынку гуляў у жалезку.

Хутка звольнілася мейсца каля яго і сеў я папрабаваць шчасьця.

Адразу я трошкі праіграў, але пасьля пачало шанцаваць. Урэшце прыйшоў чарод трымаць банк.

Дваццаць пяць туманаў, пастаўленых мною ў банк шыбка пачалі расьці і калі чарод дайшоў да эўнуха было ўжо ў банку дзьвесьце туманаў (больш 400 рублёў).

— Колькі ў банку,—пацікавіўся той пісклівым галаском.

Я назваў лічбу.

— Па банку, — зноў запішчаў эўнух.

Я даў карты. Паглядзеў у свае — ў мяне шэсьць.

— Даю.

— Но (ня трэба) — запішчаў эўнух.

— А бадай ты згарэў. Мае шэсьць альбо сем — думаў я. — Э, было, ня было, вазьму карту.

— Бяру, — заявіў я, адчыняючы сваю шасьцёрку.

Вакол загудзелі. Сусед мой, знаёмы мне чыноўнік расейскага банку ў Тэгеране, ажно за галаву хапіўся:

— Што вы робіце, ня купляйце — але я ўжо пацягнуў сваю карту і адчыніў двойку.

— Восем, — заявіў я.

Эўнух кінуў са злосьцю свае карты аб стол. У яго была сямёрка.

— Ох, ох, ох, — загудзелі пэрсы, прыцмоківаючы языком.

Забраўшы грошы, я ўстаў ад стала, скончыўшы йгру.

— Пойдзем. выпьем, кордош, — запрапанаваў я засумаваўшаму эўнуху. Той усьміхнуўся і ахвотна згадзіўся.

Пасьля некалькіх чарак віна і кавы з лікёрам, мой госьць быў пьяны.

— Гэта з гора — жаліўся ён мне піскілвым голасам. — Шах калісь меў 100 жонак, разумеецца, цэлых сто, а цяпер толькі 12 — жаласьліва бядаваў ён.

Пад пьяную руку я хацеў даведацца ад яго, што небудзь больш аб жыцьці ў гарэмах, але ён ці не хацеў адказваць, ці ўжо быў так пьяны, што ня ведаў, што да яго гаворыць, бо толькі бядаваў над нядоляй сваей і нядоляй пэрсыдзкага народу, які ідзе відавочна да ўпадку, бо якжа-ж, 12 жонак, усяго 12 жонак мае бедны, нешчасьлівы кароль яго.

(*Працяг будзе*).

рух і толькі бракам сведамасьці газэты, чым сапраўды быў у беларускім грамадзянстве Язэп Мамонька, гэтая новая „апора“ савецкай дзяржаўнасьці, можам вытлумачыць абмылку „Słowa“.

Для тых, хто бліжэй знаў Мамоньку, знаў яго маральныя клясыфікацыі, пераезд яго ў Саветы ня быў неспадзеўкай.

Такі чалавек, як Язэп Мамонька, мог знайсьці прытулак толькі ў дзяржаве, дзе мараль лічыцца „буржуазным прэдразсудкам“. Сэнсацыяй для беларускага грамадзянства быў толькі той шум, і тыя авацыі, з якімі спаткалі яго прадстаўнікі савецкае ўлады, бо сапраўды ня можам зразумець, якія надзеі пакладаюць бальшавікі на Мамоньку, што яшчэ яны хочуць выцiснуць для комуністычнае партыі з гэтага даўно пагасшага агарка расейскай рэвалюцыі.

Калі ўвесь гэты гвалт і шум, усе гэтыя авацыі маюць на мэце толькі стварыць Мамоньцы рэкляму для некалькіх яго лекцыяў, у каторых Мамонька бязумоўна будзе казаць, як цяжка жыць у Польшчы беларусу і які рай у Саветах, то з гэтага ясна адно: як мала народ у Саветах верыць усяму таму, што кажуць на гэтую тэму бальшавікі і што пішуць іхнія газэты.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Увагі аб гадоўлі сьвіней.

(Гл. № 29 „Бел. Дня).

Мацёра, прад чуваючы бліскасьць апарасеньне, сьцеля для сябе і парасят гняздо. Такога гнязда нельга раскідаць, як гэта часта робіцца, бо мацёра тады непакоіцца, злуе, а гэта прычыняецца да сапсаваньня яе малака. У практыцы заўважваецца што парасяты, прысаджаныя да цыцкаў злоснай мацёры, дастаюць ад ссаньня або скурчаў, або развальненьня, а гэта дрэнна ўплывае на іх рост. Сьвежа народжаныя парасяты адразу шукаюць маткі, каб ссаць—але лепш іх зьбіраць па парадку ў кошык, мякка высланы, да часу, пакуль усе ня выйдуць і толькі тады ўкладаць іх дзеля ссаньня.

Наагул трэба пільнаваць у часе, калі сьвіньня паросіцца, каб мацёра парасятаў не падушыла. Некаторыя сьвіньні жруць нават, або забіваюць сваіх парасятаў, а здараецца гэта найчасьцей тады, калі парасяты маюць гострыя зубкі, якімі калечаць вымя маткі, прычыняючы ёй боль. Кожны гаспадар, які гадуець сьвіньні, павінен мець гэткія абцужкі, як дзеля ломкі дроту, і аглядзеўшы лычыкі парасятаў, калі каторае небудзь мае вострыя зубкі, дык павінен адламаць яму іх вострыя канцы. Можна гэта вельмі лёгка і бяз шкоды парасяці зрабіць. Задушэньне парасятаў здараецца вельмі часта, дзеля браку догляду; маладыя парасяты вельмі незарадныя і не адсунуцца ніколі, калі мацёра кладзецца на бок, або паўлазяць у даўгую салому, гэтак, што іх маці не бачыць. Каб чагосьці падобнага не здаралася, трэба ад першага-ж дня зрабіць у хляўку дзераўляную перагародку, моцную, з густа ўстаўленнымі калкамі на мэтр высокую, якая ўкладаецца між дзьве ліштвы, прыбітыя да сьценаў хляўка. Праз гэткую перагародку, парасяты могуць пралезьці, а мацёра не. Перагародка мусіць быць моцная, каб мацёра яе не паламала.

У першых-жа днях пасьля апарасеньня кладзем парасятаў за перагародку, на мяккую пасьцілку, а перагародку закладаем яшчэ ўнізе дошкай, каб яны не маглі пралезьці да маткі і гэтак даём іх дзеля ссаньня толькі 4—5 разоў у дзень. Гэткім спосабам ня ссуць яны матку і ня дражняць яе без патрэбы. Пасьль 8-х дзён яны гэтак прывучацца да гэтага, што самыя будуць потым хадзіць спаць на сухую пасьцілку, кладучыся паводле свайго звычаю галавамі ўмітус, каб ім было цяплей. У хляўку трэба пасыпаць парасятам пяску, або попелу, каб яны маглі з яго карыстацца сколькі ім захочацца, бо гэта маець дадатнае значэньне ў іх здароўі.

Па двох тыднях, калі маем салодкае зьбіранае малако, а парасяткі хочуць ссаць, дык трэба ім даваць яго, але патроху, некалькі разоў у дзень і то цёплым і разбаўленым вадой. У гаспадарках, дзе малако перарабляецца (цэнтрафуга), а каровы ня маюць сухотаў, трэба зараз-жа па выдаеньні аддзяліць сьметанку і даваць малако парасятам бяз клустасьці ўжо, таму-што яно тады маець яшчэ адпаведную цяплыню. Малако трэба скармліваць сьвежым г. знача салодкім, падаграваючы яго, у выпадку калі яно зімнае; абрызглага, гэта зн. падквашанага малака, даваць парасятам нельга, таму-што спажыўшы гэткае малако, парасяты дастаюць моцнага развальненьня. Абрызглае малако трэба сквасіць зусім і квашаным можна карміць парасяты, але ўжо старэйшыя, падгадаваныя. Калі-ж даецца малако перагатаванае, (дзеля забіцьця могучых быць у малацы мікробаў—сухотаў, або з баязьні, каб ня скісла) добра дадаваць трошкі ячменнай асыпкі. Парасяты ядуць гэтак запраўленае малако, а жывот іх прызвычаiваецца да сталейшага корму.

Калі парасяты ядуць ўжо добра гэтак запраўленае малако, трэба ў чыстым мейсцы ў хляўку пасыпаць ім трошкі сьцёртага аўсу, а пасьля некалькіх дзён, як авёс добра выядуць, цэлага ячменю, або жыта. Парасята грызучы ячмень, вырабляюць сабе жухвы і сьлінавую залёзу, што спрычыняецца да добрага грызеньня і страўленьня корму. Нельга забывацца аб частым падсыпаньні сьвежага пяску, попялу і зямлі, ў гэтай мешаніне парасяты могуць рыцца, колькі ім падабаецца.

Рух гэткі вельмі карысна ўплывае на разьвіцьцё парасятаў, а пабраныя мінэральныя часьці на ўзмацоўваньне касьцей парасяткаў. Недахоп салодкага малака можна заступіць рэдкай кашкай, зробленай з кілё ($2\frac{1}{2}$ фунта) ячменнай асыпкі, або з асыпкі рознага збожжа, якую трэба згатаваць ў 3 — 4-х бутельках вады або сыраваткі. Кашку гэткую можна даваць і адсаджаным ад маткі парасятам. Каліж зауважым у ссучых парасят вялікшы апэтыт, дык можна апрача цэлага ячменю даваць ім крыху сечаных буракоў. Даваць трэба парасятам гэтульки дадатковага корму, колькі яны яны яго могуць зьесьці, дзеля чаго лепш даваць меншымі порцыямі, але затое

часьцей. Пачынаючы ад чацьвертага тыдня, можна даваць парасятам мяшанку, якая робіцца з 10 кіл. ячменнай асыпкі і 3 кілёграмаў пазбаўленай клустасьці рыбнай мучкі. Кашы гэткай даём парасятам столькі, колькі яны яе зьядуць. Летам, апрача гэткай густой кашы, трэба даваць парасяткам зеляніну, добра пасечаную — потым, калі ўжо парася будзе само адно зьядаць 1 кілёграм ячменнай асыпкі ў дзень, можна даваць ім большую колькасьць паранай бульбы.

У працягу $2^1/_2$ месяцаў, час гэты лічыцца парасячым векам, трэба карміць парася паводле выжэй пададзеных спасобаў. Пры далейшым кармленьні адпадаець дадатак цьвёрдага збожжа, г. зн. цэлага зярна, на мейсца якога прыходзіць асыпка, буракі. Пры кармленьні сьвіньняў асабліва парасятаў, трэба вельмі пільнавацца, каб судзьдзё, у якім даецца ім корм было зараз-жа, як парасята пад'ядуць, чыста вымыта і каб у ім нічога не заставалася, таму, што рэшта, астаўшагася корму скісае, а папаўшы потым у нутро парасяці, выклікаець у яго забурэньне ў траўленьні, а потым моцную бягунку, гэтак сама трэба памятаць аб тым, каб салома, ужываная на падсьцілку у хляве, была здаровай, не заплесьнеўшай і была пасечанай, бо ў доўгую салому парасяты, як было ўжо ўспомнена, запутваюцца і мацёра можа іх часамі прыдушыць.

У цеплыя сонечныя дні трэба мацёру с парасятамі выпушчаць на панадворак зрана і папоўдні, каб парасяткі пабегалі па сьвежым паветры і парыліся — бо гэта ідзець ім на здароўе — у часе-ж сьпякоты ў поўдзень, калі няма добрага ценю, лепш трымаць іх у хляве.

---

## Насеньне агуркоў.

Кожны гаспадар, які сее агуркі, хоча мець іх як найранеі і ўраджай як найвялікшы. Дзеля таго, каб гэтыя жаданьні гаспадара спаўняліся, трэба мець перадусім заўсягда добрае насеньне— а добрае насеньне будзе тады, калі яно будзе свае ўласнае — прыгатаванае самым гаспадаром.

Першыя агуркі гаспадары заўсёды вітаюць з вялікім задаваленьнем і ці-то дзеля прадажы, ці каб самому з'есьці—хутка іх зрываюць. Гадуючы агуркі на насеньне рабіць гэтага ня можна, таму што якраз гэтыя першыя, найранейшыя, найпякнейшыя агуркі трэба пакінуць на насеньне, бо толькі гэткія агуркі даюць нам пэўнасьць раньніх зборак у наступным годзе. Дорага прадаём раньнія агуркі, але насеньне, якое ён-бы мог даць, было-б шмат разоў больш варта, чымся цана, за якую прадалі зялёны агурок; прадаваць раньнія агуркі можна толькі ў тым выпадку, калі іх ёсьць у нас за шмат.

Агуркі, якія пакідаем на насеньне, выбраўшы разумеецца найпрыгажэшыя, трэба паадзначаць і пакінуць у спакоі да часу дасьпяленьня. У вынятковых выпадках, калі-б зашмат лілі дажджы і агуркі маглі-б згніць, трэба пад іх падкладаць кавалкі шыбаў, або дошчак, каб яны не датыкаліся зямлі. Пажоўклыя агуркі пакідаем яшчэ на мейсцы да часу, пакуль хвасточкі іх не пасохнуць. Гэта павінна наступіць у жніўні, або ў верасьні. У кожным выпадку, ці хвасточкі насеньнікаў агуркоў пасохлі ці не, трэба іх сабраць перад першымі прымаразкамі, каб мароз іх не папсаваў. Тыя з іх, якія будзяць сумліў, што да іх сьпеласьці, кладзём у хаце на вокнах, з тых-жа, якія добра дасьпелі, можам зараз-жа выбраць насеньне.

Робім гэта ў наступны спосаб: Агурок трэба разрэзаць уздоўж, ад хвасточка да праціўлеглага канца, далей, мусім аглядзець яго нутро—пры гэтым трэба памятаць, што добры агурок павінен мець як найгрубшае мяса і як найменей зярнятаў. Найчасьцей бачым у агурках цэлыя дарожкі добра разьвітых зярняткаў — гэта ня ёсьць ўжо вельмі вялікай шкодай, таму што звычайна ямо агуркі ў маладым веку, калі зерняткі яшчэ зусім не разьвітыя.

Дасьпелыя насёны выгортываем з аг ур лыжкай, дзераўлянай ці мэталёвай, разам з акружаючыаі іх плеўкамі. Усю гэту сачыстую масу зьліваем у судзіну і ставім на панадворку, на сонцы. Маса гэта кісьне, перагнівае, што зусім не шкодзіць насеньню, а толькі размягчае плеўкі і аслонкі насёнаў, бо кожнае зернятка агурка маець навокал сябе сьлюзаватую матэрыю, якая знаходзіцца ў моцным празрыстым мяшочку, з якога трэба зернятка выдабыць. Квасьнеючую масу трэба па некалькі разоў у дзень мяшаць аж да дна.

Звычайна праз некалькі дзён гэткай чыннасьці, плеўкі і мяшочкі трацяць сваю моц і лёгка распадаюцца, аслабаняючы насеньне. Тады прыступаем да мыцьця насеньня. Найпрасьцейшы спосаб мыцьця будзе наступны: частку, або ўсю масу, залежна ад таго, колькі яе ёсьць, уліваем у моцнае, драўлянае, гэтак густое сіта каб насёны праз яго не пралазілі. Масу ў сіце пераціраем рукой, ад чаго апошнія мяшочкі, якія яшчэ ня трэснулі, патрэскаюць, а значная частка рэдкае сярэдзіны агурка разам з сокам сплываець на зямлю. Далей, сіта палошчам у вялікім начыньні з вадой, у выніку чаго частка густое масы і пустых зярнят усплавае, а добрыя, сьпелыя зярняты застаюцца на дне сіта. Чыннасьць гэту паўтараем, столькі разоў, пакуль ўсё чыста лішняе ня ўсплыве і не застанецца ў сіце чыстае добрае насеньне. Ачышчанае насеньне выкідаем з сіта на плахты, і па магчымасьці хутка сушым на сонцы і ветры; часамі прасушваем насеньне і на заўтра і добра высушанае зсыпаем у торбачку. Як бачым, работа пры ачышчэньні насёньня агуркоў, як і сушэньне іх, вымагаець трыманьня рук праз даўжэйшы час у макраце, дзеля чаго рабіць гэта можна толькі ў цёплую пагоду — так сама як і дзеля асушэньня несеньня патрэбна добрая пагода, вось-жа рабіць усё гэта трэба ў кароткія, але пагодныя дні „баб'яга лета", не адкладаючы гэтага на пазьней, калі ужо начнуцца дажджы, а нават прымаразкі. Гатовае, сухое насеньне трэба старанна хаваць ад мышэй; з гэтай мэтай торбу з насеньнем завешваем высока пад столлю. Памешканьне, у якім прахоўваем насеньне, можа быць халоднае, марознае, або цёплае, а нават гарачае, але мусіць быць сухое, пазбаўленае лішняе пары, якая звычайна бывае ў кухнях.

Практыканты агароднікі ня любяць сьвежага насеньня агуркоў, таму, што яно звычайна выдаець расьліны, якія буйна растуць, а мала даюць гуркоў, за мала плодныя.

Трыгадовае і старэйшае насеньне ёсьць адпаведным да сеяньня. Калі-ж ня маем магчымасьці дастаць насеньне некалькі гадовага, дык ў такім выпадку трэба загадзя прыступіць да пры-

гатаваньня сьвежых, каб яны далі нам плодныя расьліны. Дзеля гэтага ў восені бярэм адпаведную колькасьць сьвежага насеньня, сыпем яго ў папяровую торбачку і кладзем на комін печы, у якой часта і моцна паліцца; трымаем яго там у працягу цэлае зімы, пільнуючы, каб мышы ня зьелі, а ў траўні (маі) месяцы здымаем і высеваем у прыгатаваную градку. Вынікі заўсёды бываюць добрыя.

Насеньне агуркоў вельмі доўга захоўвае моц прарастаньня; насеньне нават праз дваццаць гадоў пралежалае ўзыходзіць і дае добры ўраджай.

Ня можна толькі сеяць двух гатункаў агуркаў блізка сабе, бо пчолкі лёкка іх крыжуюць, што дае дрэнныя вынікі ў паступных пакаленьнях. (Miesięcznik Ogrodniczy).

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Рожныя сысэмы медагонак, іх значэньне і практычнае застасаваньне.

(Гл. № 29 „Бел. Дня“).

У сваім папярэднім артыкуле аб медагонцы я даў агульны пагляд на яе будову і апісаў тое вялікае значэньне і карысьць медагонкі, якую яна прыносіць пчаляру і пчолкам.

Усё гэта было зробляна з мэтаю пабудзіць нашых пчаляроў да рацыянальнага вядзеньня пчалярскае гаспадаркі, якога, разумеецца, ня можна прадставіць без медагонкі. Па-за вульлём гэта першая і найгалаўнейшая прылада ў пчалярстве, а між іншым прыходзіцца сказаць, што надта рэдка яе можна спаткаць ў нашых пчаляроў. Надта часта прыходзіцца спатыкаць такіх пчаляроў, якія нават ўжо і парупіліся ўвясьці на сваіх пасеках рамовыя пастаўковыя вульлі, але не ўвялі яшчэ медагонкі; дзеля гэтага і гаспадарка на іх пасеках вядзецца зусім простым спосабам, з маленькаю рожніцаю, як й ў калодах, бо мёд проста вырэзваецца з рамак разам з вузаю і таўчэцца ў ночвах. Гэтым самым пчаляр ня толькі не зрабіўся паступовым, увёўшы на сваей пасецы рамовыя вульлі, але яшчэ горш ён адстаў, як той, што ў калодах водзіць, дзеля таго, што таму, ў якога калоды, ня можна іначай зрабіць, як толькі вырэзваць мёд (правадзіць г. зв. рабункову гаспадарку), а гэты, ў якога пчолы ў рамовых вульлёх пры добрай ахвоце і зразуменьні справы можа зрабіць усё, г. зн. ці зрабіць сваю ўласнаю медагонку, ці зноўжа ў астатнім выпадку купіць яе, але гэтага ня хоча зрабіць, бязумоўна не разумеючы яе значэньня. Разьвіцьцё пчалярскае гаспадаркі, як і наагул кожнае гаспадаркі з кожным днём йдзе наўперад; і таго, хто ня ўсьпевае ісьці за ім, пакідае з-заду, проста мінаючы яго, як чалавека не дарослага яшчэ да званьня пчаляра, ці зноўжа гаспадара. Трэба пасьпеваць з жыцьцём, трэба трымацца з развоем і ісьці за ім.

Вот-жа, як толькі які колечы гаспадар захоча заняцца пчалярствам, як толькі ўжо завядзе іх некалькі вульлёў, (я тут разумею рамовых) дык першым яго абавязкам ёсьць набыцьцё медагонкі. Знаючы яе будову, нятрудна будзе зрабіць яе самому, тым спосабам, які я апісываў у сваім папярэднім артыкуле, а той хто сам ня можа зрабіць яе, павінен парупіцца зара-жа купіць яе ў склепе, альбо проста выпісаць са складу. Дзеля таго-ж што ў прадажы ёсьць медагонкі рожных сыстэмаў, я павінен больш-менш апісаць іх, каб той, хто захоча мець медагонку, мог арыентавацца ў іх будове, і ў практычным застасаваньні. Хаця кожная з медагонак мае больш-менш аднолькавую будову, але кожная з іх аднак-жа троха рожніцца ў практычным застасаваньні. Медагонка Кавана, ангельскага пчаляра, які прыдумаў яе ў 1875 годзе. Складаецца яна з жалезнага луджанага чану, які мае ў дыамэтры 18 цаляў і 24 цалі ў вышыню. Дно ў чане маець форму ўсечанага конусу з кранам для сьцёку мёду. Унутры чану знаходзіцца станок для рамак, які круціцца на верацяне. У станку гэтым знаходзяцца дзьве клеткі, якія ўсоваюцца ў пазы станка. Клеткі гэтыя можна выняць і ўлажыць туды без ніякае шкоды рамкі з дошкаю. У адной гэтакай клетцы можна ўлажыць восем фунтовых сэкцыяў. Як мёд выкруціцца з аднаго боку, клетку высоваюць і пераварочваюць рамкі другім бокам на вонкі і ізноў устаўляюць. Перахрэсныя драты хароняць рамкі з вузою ад выпучваньня і німа чаго баяцца, што яны паломяцца. Гэта самая простая двурамковая медагонка, працуець надта добра і ўсюды знаходзіцца ў вялікім ужываньні.

Другая медагонка падобна першай, вышаўшая ў сьвет у 1878 годзе, Бальдвіна. Чан у гэтай медагонцы гэтак сама зробляны, як і ў першай, але ўнутранная будова зусім іная. У гэтай медагонцы няма патрэбы выймаць унутранія клеткі, для пераварачваньня рамак. Клеткі для рамак вісяць на сьцержнях, якія праходзяць цераз праціўныя ўглы так, што калі адзін бок выкруціцца клетку з рамкаю паварочваюць на сьцержні, прышчэпліваюць да другога боку і далей круцяць; гэтакім чынам ашчажаецца троха часу з пераварачваньнем рамак. Клеткі гэтыя ўсажваюцца ў бязданны цыліндар, які верціцца разам з рамкамі і хароніць мёд ад распырсківаньня. Маецца яшчэ ў прадажы і патэнтаваная медагонка *Рэйнора*. Рожніцца яна ад папярэдніх медагонак тым, што ўнутры яе знайходзіцца квадратная клетка, якая ўстаўлена да гэтага ў бяздонны прыемнік гэтакай самай квадратнае, як і клетка, формы. Гэты квадратны прыемнік разам з клеткаю абарочваецца ў цыліндры на яго, конусавае формы, дне. Унутры прыемніка ёсьць прыробляныя рабром бляшаныя палоскі, якія сьцярагуць, прытрымоваючы бакі дратовае клеткі, рамкі ад палому. Тонкі дрот, гэтакай грубіні, як той, які мы нацягваем ў рамках, для ўмацаваньня штучнае вузы, зьвіваецца ў тры столкі, з якога потым робіцца сетка; вочкі гэтае сеткі павінны мець гэтакую вялічыню, каб у іх лез палец рукі. Сплецяная гэтакім чынам сетка апіраецца на ўспамянутыя вышай бляшаныя пласьцінкі і хароніць ад палому нават самыя дэлікатныя сьвежыя рамкі. Для тых пчаляраў, якія ня могуць здабыцца на бальшую двурамковую, ці чатырохрамковую медагонку, можна набываць аднарамкавую медагонку г. зв. цудадзейку Абата, уведзяную ў жыцьцё гэтак сама ў 1875 годзе. Будова гэтае медагонкі зусім простая, ды і каштуець яна ў некалькі разаў таней. Складаецца яна з бляшанага вылужанага поўчана, які маець форму чана разрэзанага на палавіну. Поўчан гэты прымацойваецца моцна, у некатарым адступе

да жалезнага вярэцена, палоскамі моцнае бандарскае бляхі ў версе і ў нізе.

Унутры гэтага поўчана з заду яго, які, разумеецца, павінен быць аткрытым для доступу туды паветра, за драцяную сетку ўстаўляецца рамка з мёдам. Верацяно пачынаем круціць разам з поўчанам і тады мёд выкручваецца. Кончыўшы выкручваць, выліваем мёд з нашага поўчану да пасудзіны, потым устаўляем новую рамку і г. д. г. д.

У прадажы маецца шмат яшчэ другіх гатункаў медагонак, але ўсе яны прадстаўляюць сабою больш меньш паважныя недагоднасьці. Вельмі важна, каб рамкі з мёдам стаялі ў медагонцы роўналегла да яе сьценак, тады роўнамерна са ўсяе рамкі вылятаець мёд. Калі рамкі будуць наклонены да сьценак, дык у ніжнім канцы рамкі мёд застаннецца ня зусім выкручаным.

---

## Праца на пасецы ў месяцы верасьні.

Канец жніўня і пачатак верасьня прыносяць ужо пчаляру думку аб тым, каб сваіх пчолак прыгатаваць да асеньніх, а потым зімовых халадоў, для самых-жа пчолак гэты час канчае багатае медабраньне на полі (звычайна ў гэты час пчолкі зьбіраюць мёд толькі з верасу, ад якога гэты месяц мае назоў). Бязумоўна, што ў гэтым месяцы яшчэ нельга прыгатаўліваць вульлі да зімоўкі, дзеля таго, што пчолы ў гэты час, ў некаторых моцных вульлёх, канчаюць яшчэ выводзіцца, адгрызаюць трутняў і ў ясныя пагодныя дні вылятаюць яшчэ масова на поле — аканчальна пчолы садзяцца ў вульлёх тады, як пойдзець павуцьцё і засьцеле сабою ўсе абшары; але ўсёжтакі гэты месяц не пазбаўляны значных халадоў, асабліва начных, ад якіх трэба запясьпечыць пчолак. З другога боку ў гэтым месяцы пчаляр павінен паруліцца зрабіць на сваёй пасецы другі і аканчальны агляд вульлёў (першы агляд робіцца ў месяцы жніўні), тым лепей гэты агляд павінен заахвочваць пчаляра, бо пры ім ён можа нават яшчэ атрымаць крыху мёду.

Прыпадаець-жа гэты мёд пчаляру пры звужваньні гнязда, г. зн. пры забіраньні з вульля лішніх, надлічбовых рамак.

Разумеецца, што рамкі сабіраюцца з вульля такія, з якіх ужо зусім выгрызлася і вывялася чарва.

Як толькі дастанем рамкі з вульля, дык стараемся як найхутчэй выкруціць з іх мёд, а гэта дзеля таго, каб не даць магчымасьці мёду сцукравацца ў чарачках, з якіх тады надта трудна было-бы яго дастаць, не папсаваўшы пры гэтым вузы. Пры звужваньні гнязда, стараемся і памятаем аб тым, каб гняздо ў вульлі зьменшыць да астатняй магчымасьці, памятаючы пры гэтым, што чым гняздо боляй будзе зблажана сваей формай да квадрату, тым ляпей і лягчэй перазімуюць ў ім пчолы, дзеля таго, што цяпло ад пчолак будзе раўнамерна расходзіцца на ўсе бакі і награваць раўнамерна ўсе рамкі і ўсё гняздо. Калі-ж пакінем пчолам на зіму болей рамак, чым яны могуць абагрэць, г. ё. калі гняздо ад гэтага будзе вялікае, не квадратнае, а падоўжнае, тады ў апошніх рамках з краю мёд ад холаду сцукруецца, а пчолы, каб абагрэць сабою ўсё гняздо, будуць змушаны есьці за шмат мёду, сцукраваны-ж мёд можа выклікаць у іх хваробу ганячку — пры гэтым шмат пчолак у часе зімы можа зьніштожыцца і сям'я з зімы выйдзе зусім слабаю.

З другога боку, у *надта цесным* гняьздзе пчолы зімуюць яшчэ горай: неспакойна сядзяць, дзеля чаго гэтак сама зьядаюць шмат мёду; церпяць смагу з прычыны вялікае цяплыні, часта вылятаюць з вочка з мэтаю дастаць вады і гінуць на двары ад марозу; матка ў цесным гняьздзе пачынае надта рана чарвіць, часамі аж у пачатках студня. Найважнейшаю, як бачым з гэтага, справаю будзе азначэньне вялічыні гнязда адносна да вялічыні сям'і. У некаторых выпадках пчолы самы даюць знаць пчаляру, колькі ім трэба рамак на зіму, зьбіраючыся ў канцы верасьня ў клубок і займаючы ім некалькі рамак; тады пакідаем столькі рамак, колькі пчолы абсядуць, дадаўшы яшчэ адну рамку, як засланку з боку. Гэтае звужваньне гнязда на зіму робім у канцы верасьня, па якой колечы халоднай ночы, калі ўжо значная колькасьць пчол выгінула ад асеньняе працы, а рэшта пчол сабралася ў клубок, каб усьцярагчыся ад холаду. Каб пераканацца, колькі рамак займае пчаліны клубок, ня трэба разьбіраць гнязда, а толькі зьняўшы падушку зьверху, ці зноў-жа пакрыўное палатно, ці дошчачкі, паглядзець і пераканацца па атворынах між рамкамі.

Другою справаю пры звужваньні гнёздаў ёсьць агляд з вялікаю ўвагаю, запасаў мёду ў гнёздах рамак, г. зн. ў тых, якія мы пакідаем пчолам на зіму. Калі ў нас няма пэўнасьці, ці пчолы маюць пад-дастаткам мёду, то з мэтаю сканстатаваньня гэтага, спраўджаем запас мёду, ці ў часе звужваньня гнёздаў, ці нават і раней; раней нават ляпей дзеля таго, што мы ўжо ў часе звужваньня гнёздаў ведаем, якія рамкі з гнязда забраць і якія пакінуць.

Пры гэтай рабоце трэба памятаць, што колькасьць мёду ў крайніх рамках ня можа быць паказьнікам для гнёздавых рамак, асабліва для тых, у якіх яшчэ нядаўна выводзіліся пчолы, альбо нават яшчэ і цяпер ня кончылі выводзіцца. Бо вядома, што ў гэты час выводу маладых пчолак, ўсе запасы мёду складаліся ў крайнія рамкі, з якіх гэтага запасу пчолы не пасьпелі яшчэ пераняcьці ў гняздовыя рамкі. Асабліва малы запас мёду можа быць ў сярэдніх рамках тых вульлёў, дзе маткі чарвілі яшчэ позьняю восяньню, а найболей гэта здараецца ў тых вульлёх, дзе вывяліся, ці былі пасаджаны маладыя маткі. Каб папоўніць запас мёду для пчол можам зьмяняць рамкі ў такіх вульлёх, узяўшы з гэтаю мэтаю запоўняныя і запячатаныя лішнія рамкі ў другіх вульлёх і даўшы іх нашым недамагаючым на мёд вульлём. Каліж часамі здарыцца, што такіх запасных рамак няма, тады падкормліваем пчол, даючы ім мёд рэдкі, ці цукровую сыту ў вялікіх дозах, а гэта дзеля таго, каб матка на нова не пачала чарвіць. Дозы гэтыя павінны выносіць $1^1/_2$-2 кілёграмы на раз. Падкормліваньне стараемся кончыць у палове верасьня, каб пчолы да сапраўдных халадоў, пасьпелі гэтыя, новаўзятыя запасы, перарабіць і запячатаваць на зіму. Калі зьбіраемся падкормліваць сцукраваным мёдам, дык трэба гэты мёд разьвесьці гарачаю, перагатаванаю вадою. У выпадку падкормліваньня цукровым сыропам (сытаю) дадаём да гэтае мешаніны саліцылавае кіслаты, а гэта дзеля таго,

каб забясьпечыць мёд, ці сыроп ад фэрмэнтацыі (акісаньня).

Апрача звужваньня гнёздаў і падкармліваньня пчол на зіму, трэба яшчэ ў гэтым месяцы памятаць і аб забяспьчэньні пчол ад холаду, бо ўжо ад пачатку верасьня здараюцца ў нас халодныя ночы.

Калі холад будзе мець доступ да гнязда, то ад гэтага мёд у крайніх рамках можа зцукравацца і перамерзнуць, унёсшы гэтым самым на даўжэйшы час холад у вулей.

Каб уберагчы вулей ад гэтага, трэба ўжо ў пачатку верасьня ўставіць у вулей з пераду рамак саломяную мату.

Пры маце ставім парожную рамку, а потым да яе дасоўваем рэшту рамак. У другой палове верасьня стараемся не разьбіраць гнёздаў, а гэта дзеля таго, каб не псаваць пчолам іх работы ў вульлі; мы можам ізноў паразьдзіраць усе атворыны, якія пчолы пазаклейвалі кітам, каб гэтым самым спыніць даплыў холаду.

У верасьнёвай працы пчаляра ляжыць яшчэ сьцеражэньне і забяспячэньне пчол ад рабунку. Рабунак у гэтым месяцы бываець надта частым з тае прычыны, што пчолы маючы вялікую ахвоту насіць мёд, а ня маючы яго ўжо на полі, кідаюцца масова на слабейшыя, альбо абязматчаныя вульлі, дастаюцца ў сярэдзіну і выносяць адтуль запасы мёду. Калі-б самыя пчолы з нападаемага вульля ня здолелі абараніцца, то ў працягу аднаго дня нападаючыя пчолы змаглі-б вынясьці ад іх усе запасы і вулей гэты згінуў-бы для пчаляра. Дзеля гэтага пчаляр сам павінен рупіцца, каб у час прыйсьці з дапамогаю нешчасьліваму вульлю.

З гэтаю мэтаю пчаляр павінен зьвярнуць увагу на слабыя і абязматчныя вульлі, слабыя вульлі альбо злучаем з другімі слабымі вульлямі, скасаваўшы перад гэтым матку, альбо іх ізноўжа ўзмацовываем. У гэту пару бываюць слабымі, усе тыя вульлі, якія маюць старыя выпладжаныя і вычарпаныя маткі, апрача гэтых акажуцца слабымі і ўсе тыя вульлі, якія праз даўжэйшы час ня мелі матак і дзеля гэтага не пасьпелі вывясьці здавальняючага ліку маладых пчолак. Гэтакія вульлі бяз шкоды можам ўзмоцніць, дадаўшы ім маладых пчол з вульлёў вельмі багатых на іх. Дадаць гэтых пчол можна ў такі спосаб: вечарам якога небудзь цёплага дня ўстаўляем у моцны вулей кармушку, напоўняную да паловы сытою, калі незадоўга гэтую кармушку абсядуць моцна пчолы, выймаем яе і разам з імі пераносім кармушку ў слабы вулей. Пры сыце пчолы лучацца лёгка і не адцінаюцца, толькі пчол трэба не падражніць.

Абязматчаныя вульлі стараемся выратаваць цераз даданьне ім новых матак, альбо калі няма надзеі, што матка іх выратуець, лучым іх з другімі вульлямі. Дадаем у гэты час матак і тым вульлём, якія ўнеспадзеўкі страцілі матку. Гінець матка ўнеспадзеўкі часта альбо ад вошай, якія завяліся ў вульлі, альбо ад рабунку, альбо зноў-жа ад якіх небудзь другіх прычын як: ад аблёту, ад неасьцярожрага пераглядваньня пчаляром гнязда. У верасьні стараемся дадаць матку якнайхутчэй, каб яна яшчэ перад халадамі пасьпела зжыцца з пчоламі. У гэты час гэтак сама замяняем маткі старыя, якія ўжо слаба чарвяць, дзеля таго, што такія маткі альбо на вясну зусім ад старасьці перастануць чарвіць, альбо будуць выводзіць толькі трутняў, альбо зноў-жа могуць зусім згінуць у часе зімы. Перад даданьнем маткі стараемся дадаць у той вулей гэтак сама чарвы па выйсьцю яе з чарачак, а гэта, каб з гэтых маладых пчол прыгатаваць апякуноў для маткі і будучых чарвячкоў.

У месяцы жніўні і ў верасьні ў вульлёх часта заводзяцца вошы, ад якіх пчаляр усімі сіламі павінен цяпер ратаваць вульлі. Паразіт гэты надта дрэнчыць маладыя птолкі, а асабліва матку, якую надта часта даводзіць да сьмерці. Гзеля гэтага стараемся іх, пакуль яшчэ ёсьць цёплыя дні і мы можам разабраць гняздо, проста вылавіць і выдушыць, каб пры гэтым не спававаць рабунку, дык ня трэба надта падкурваць пчол, бо тады яны аб'ядуцца мёдам і сваім гукам будуць вабіць другіх пчол да свайго вульля.

Надта важнаю работаю цяпер ёсьць забяспячэньне пяргі перад сапсуцьцём на зімку. На зіму ў самым вульлі застаўляем адзін альбо два плястры з пяргою, г. зв. пчаліным хлебам, а рэшту забіраем з вульля. Пярга гэтая надта нам прыгадзіцца на вясну, як цэнны корм для маладых пчолак. Дзеля таго, што па-за вульлём пярга лёгка можа сапсавацца, заплесьняць і скіснуць, альбо ізноў-жа ў ёй можа завясьціся матыліца і есьці яе, стараймося яе захаваць ад гэтага, вырэзваючы яе з рамак, сьціснуўшы ў адзін кавалак, схаваўшы ў гліняны гаршчок і заліўшы зьверху мёдам. Каб пярга, як лягчэйшая ад мёду не выплывала на верх, дык на самым астатку па мёдзе заліваем яе яшчэ воскам.

Гэтак сама ў гэтым месяцы ў праграму пчаляра ўваходзіць упарадкаваньне воску. Воск, як ведама, па-за мёдам зьяўляецца другім багацьцем пчаляра. Дзеля гэтага трэба старацца сабраны воск ператапіць, бо інакш ён можа сапсавацца ад сырасьці; могуць яго зьесьці і папсаваць мышы і матыліца.

Усе старыя, чорныя рамкі воску, як гэтак сама і рамкі з трутоваю вузаю вырэзваем іператапляем на воск. Калі ня зробім гэтага, то ў плястрах можа завясьціся ад сырасьці грыбок, які так сапсуець воск, што і карысьці з яго жаднае ня будзе.

У гэтым месяцы, калі маем замер завясьці пчолак, стараемся купіць іх, перавезьці на сваю пасеку і падкарміць іх, калі яны мала маюць мёду. У часе зімы ніколі ня варта купляць пчол, дзеля таго, што іх тады нельга будзець падкарміць і яны могуць прапасьці з голаду.

*Пчаляр.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## Новая беларуская часопісь ў Вільні.

1-га верасьня выйшаў у сьвет № 1 новай беларускай часопісі „Беларуская Зарніца“ царкоўна-народны тыднёвік, орган праваслаўных беларусаў.

У праграмным артыкуле „Беларусізацыя праваслаўнай царквы“ аўтар яго кажа:

„Праваслаўныя беларусы ня маюць на мэце замяніць царкоўна славянскае мовы ў багаслужэньні беларускаю ня дзеля таго, каб такі замен быў некананічным, а дзеля таго, што ён у сучасны момант не карысны.

Але бязумоўна карысным і абавязкова патрэбным, па думцы беларускіх грамадзкіх дзеячоў, знаёмых з настроямі беларускага насельніцтва, зьяўляецца: 1) казаньне царкоўных навук у беларускай мове там, дзе насельніцтва гэтага пажадае, 2) выкладаньне ў школах рэлігіі ў беларускай мове, 3) угадаваньне будучых духоўнікаў для беларускага народу ў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі ў беларускай мове, з абавязковым выкладаньнем паляністыкі і расейскай мовы, 4) вядзеньне дзелаводзтва ў кансісторыях і перапіскі паміж кансісторыямі, благачыннымі і сьвяшчэннікамі ў беларускай мове, а таксама зьдзейсьненьне іншых плянаў, дапамагаючых збліжэньню духавенства з міранамі нацыянальна, а праз гэта для агульнай карысьці духова.

Усе народы міра выказваюць імкненьне да нацыянальнага самаакрэсьленьня і аб'яднаньня, і ў гэтым няма нічога варожага да царквы, бо Царква стаіць вышэй нацыянальнасьці.

Вялікае дабро было-б для Царквы, калі-б духавенства само ўзяло ў свае рукі справу нацыянальнага самаакрэсьленьня народу.

Заданьне Царквы і яе служыцялёў — панаваць над напраўленьнем духа часу і пакіроўваць яго да вялікшай хвалы Усявышняга.

Магутнасьць Царквы будуецца на панаваньні над розумам і калі мяняць гэтую магутнасьць на асабістую карысьць сёньняшняга дня, дык, узапраўды, карысьць не вялікая і ня трывалая.

Але, калі духавенства свабодна і рашуча стане на чале нацыянальнага руху, пастараецца ўзяць яго ў свае рукі і ўмела, бяз рэзкіх ухіленьняў пакіруе ім, дык народ яму неадкладна падпарадкуецца і будзе яго благаслаўляць.

### З Беларускага Студэнскага Саюзу.

Урад Беларускага Студэнскага Саюзу гэтым падаець да ведама зацікаўленых, што з дня 22 верасьня г. г. Сэкрэтар'ят Беларускага Студэнскага Саюзу (вул. Св. Анны 2) будзе адчынены ў аўторкі і суботы ад гадз. 6 да 7 вечара, куды і просім зьвяртацца па усялякія інфармацыі.

За Старшыню (—) **Я. Ермаковіч.** Сэкрэтар (—) **Ст. Станкевіч.**

### Студэнская вечарына.

Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні ў суботу дня 22 верасьня г. г. у салі Беларускай Гімназіі (Вострабрэмская № 9) ладзіць вечарыну, ў праграму вечарыны ўваходзяць: а) тэатральнае прадстаўленьне — „Сурдут і Сярмяга", драматычны абраз з песьнямі і танцамі ў 3-х актах—Ул. Гутоўскага; б) дэклямацыі, с) хор і д) скокі пад гукі духовага аркестру да 4 гадзіны раніцы.

Пачатак пунктуальна а гадз. 8-ай вечарам.

### Новы войт Палачанскае гміны.

Войт Палачанскае гміны Мацей Пятровіч — вядомы са сваіх галосных 'выступленяў проціў Паўлюкевіча, застаўся звольнены. На ягонае мейсца, 16 жніўня выбралі 8 галасамі проціў 2 беларускага гр. Міхася Чарняўскага.

### Аб Т-ве Беларускай Школы і Віленскай Беларускай Гімназіі.

Галоўная Управа Т-ва Белар. Школы падалася ў адстаўку, выбраўшы з сяброў яе—А. Трэпку, Я. Шнаркевіча і К. Крука ў арганізацыйную Камісію дзеля скліканьня агульнага зьезду Т-ва для перавыбараў Гал. Управы, а гэтак сама ім-жа даручана клапаціцца ў ваяводзкіх уладаў аб скасаваньні прыпыненай дзейнасьці Т-ва.

Канцэсія на Віл. Бел. Гімназію ад Т-ва Бел. Школы перайшла да новавыбранага Бацькаўскага Камітэту Гімназіі, у склад якога ўвайшлі гр. гр. Р. Астроўскі, М. Кэпель, сьв. Коўш і іншыя.

Вучыцялёў гімназіі, якіх Бацькаўскі Камітэт прадставіў, Куратар зацьвердзіў, апрача гр. гр. Стэцкевіча і Паўловіча. Праца ў Гімназіі ўжо распачалася. Новапаступіўшых вучняў ёсьць больш 70-х.

Дырэктарам Гімназіі вызначаны гр. Трэпка, інспэктарам — Р. Астроўскі.

### Закрыцьцё Беларускай Гімназіі ў Радашкавічах.

Па загаду Маладэчанскага Стараства закрыта Беларуская Гімназія ў Радашкавічах, якая ўтрымлівалася Т-вам Бел. Школы. У зьвязку з гэтым Бацькаўскі Камітэт названай гімназіі зьвярнуўся да ўладаў з просьбю аб адмене гэтага загаду. Трэба спадзявацца, што улады прыхіляцца да гэтае просьбы, як гэта мела месца і ў Віленскай Бел. Гімназіі.

### Нагароды за экспанаты на выстаўцы ў Вільні.

З беларусаў на выстаўцы атрымалі пахвальныя лісты: Язэп Нелепка за апарат уласнага вынаходу, які, будучы прытасаваным да лодкі, ці карабля, дае магчымасьць падчас хваль захоўваць раўнавагу.

Язэп Нелепка ў галіне вынаходаў — самавучка. Вынаходамі займаецца даўно. У руху беларускім вядомы, як пісьменнік пад псэўдонімам Старога Піліпа.

Некаторы час працаваў пры урадзе Ластоўскага. У сучасны момант працуе ў Вільні. Другі пахвальны ліст атрымаў Язэп Тулейка — за вулей для пчол.

## З жыцьця Наваградчыны.

### Выстаўка ў Несьвіжы.

Дзякуючы стараньням Наваградзкага Ваяводы ўсе экспанаты, якія былі на выстаўцы ў Вільні, будуць перавезены на Земляробскую Выстаўку ў Несьвіжы.

Як паведамляюць, Несьвіская Выстаўка, якая будзе адчынена 22 верасьня, выклікала сярод грамадзянства Наваградчыны і Віленшчыны вялікае зацікаўленьне. Выстаўка патрывае 3 дні.

### Электрычнасьць у Рубежэвічах.

Мястэчка Рубежэвічы мае ў хуткім часе завесьці ў сябе электрычнае асьвятленьне. У гэтым кірунку пачаліся ўжо стараньні.

### Сьмерць пры працы.

12 верасьня ў вёсцы Сьцеркава, Лідзкай воласьці, К. Цешко ўкладаючы пад страхой пшаніцу, упаў на ток з высокасьці 6 мэтраў і забіўся на месцы.

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ".**

# Апошнія навіны.

**Жэнэва.** Ліга Нацыяў ня вырашыла аканчальна справы польска-літоўскіх адносін. Пасьля заяваў польскага міністра заграічных справаў Залескага, літоўскага прэм'ера Вальдэмараса і рэфэрэнта гэтае справы дэлегата Галяндыі пры Лізе Нацыяў, Ліга Нацыяў паручыла Польшчы і Літве далей весьці перагаворы і сдаць з іх справаздачу на наступнай сэсыі. Па нарадзе міністра Залескага з праф. Вальдэмарасам пастаноўлена пачаць польска-літоўскія перагаворы 3 лістапада ў Кэнігсбэргу. Рэфэрэнтам ў справе польска-літоўскага спору назначаны прадстаўнік Гішпаніі, Квінос дэ Леон, які ўважаецца за прыхільніка Польшчы.

**Справа эвакуацыі Надрэйнскага краю.** Як ведама, як гварантыю сплаты адшкадаваньняў саюзьнікам, а ў першай чарзе Францыі Нямеччынай, Вэрсальскі трактат паддаў акупацыі саюзьнікаў край паложаны на левым берагу Рэйну, а належачы да Нямеччыны. Край гэты багаты і вельмі прамысловы. Наагул было ўстаноўлена 3 акупацыйныя стрэфы. З першай стрэфы ўжо акупацыя зьнята, асталася толькі ў 2 наступных, дзе мела трываць згодна з пастановамі Вэрсальскага трактату да 1935 г. Нямеччына на цяперашняй сэсіі Лігі Нацыяў падняла справу ранейшага звальненьня ад акупацыі. Перад гэтым яшчэ, падпісваючы антываенны трактат Кэллога, нямецкі міністар заграічных справаў Штрэзэманн вёў перагаворы ў справе зьнясеньня акупацыі з французскім прэм'ерам Пуанкарэ.

У гэтай справе адбылося ў Жэнэве некалькі нарадаў, у якіх узялі ўдзел прадстаўнікі Францыі, Англіі, Італіі, Японіі і Нямеччыны. Як можна судзіць з вынікаў адбытых нарадаў, справа ранейшай эвакуацыі Надрэніі залежыць ад урэгуляваньня грашовых забавязаньняў Нямеччыны ў адносінах да саюзьнікаў, а перш за ўсё да Францыі. Момэнт агульнае бясьпечнасьці, з якім мела быць злучана справа акупацыі Надрэніі, сходзіць на далейшы шлях.

**С.С.С.Р. Дэлегацыя польскіх прамыслоўцаў у С.С.С.Р.** Польская дэлегацыя прамыслоўцаў зьведала прамысловыя асяродкі С.С.С.Р. Дэлегатаў польскага прамыслу прымалі ўрачыста прадстаўнікі расейскіх прамысловых сфэраў.

Дэлегаты зьведалі Ніжнягародзкія таргі, Ленінград і асяродкі жалезнага промыслу.

**Зьмена ў варшаўскім савецкім прадстаўніцтве.** Газэты падаюць, што хутка мае ўступіць з займанага становішча савецкі прадстаўнік у Польшчы Багамолаў. На яго месца мае быць назначаны цяперашні савецкі прадстаўнік у Латвіі—Лёрэнц. Пры гэтым маюць наступіць далейшыя зьмены на ніжшых становішчах.

**Арыгінальны працэс ў С.С.С.Р.** У Пэнзе адбыўся арыгінальны працэс некага Фролава, які выскачыўшы на вуліцу крыкнуў: „Бей жыдоў, ратуй Расею“ адначасна пабіў моцна нейкую жыдоўскую сям'ю.

Старшыня суда заявіў, што меў тут месца выпадак хуліганства, нічога ня маючы з антысэмітызмам. Абвінавачанага засудзілі на прымусовую працу ў бальніцы.

Мясцовы камуністычны часопіс „Трудавая Праўда“ дамагаецца рэвізіі працэсу.

**Нямеччына.** Прэзыдэнт нямецкай рэспублікі Гіндэнбург адбыў паездку па Верхняй Сілезіі (Горны Шлёнск). У м. Стэліц сказаў Гіндэнбург вялікую палітычную прамову, у якой заявіў, што для Нямеччыны астанецца незразумелым, чаму насупрэч рэзультатам плебісцыту, Верхняя Сілезія ня была прызнана ў цэласьці Нямеччыне. Такое выступленьне Гіндэнбурга выклікала агульнае зьдзіўленьне і абурэньне. Як-бы ня было, але такое выступленьне галавы нямецкай дзяржавы, у дабавак ня згоднае з праўдай, ня зусім добра атклікнецца на польска-нямецкіх гандлёвых перагаворах.

**Амэрыка. Страшная бура.** Амэрыку наведала страшная бура, так званая „торнадо“. У адной Флёрыдзе згінула 83 асобы, а 140 аднесьлі раны. Шкоды на самым востраве Порторыко выносяць больш чым 140 мільёнаў даляраў. Палова двумільённага насельніцтва апынулася бяз даху над галавой. Некалькі тысяч людзей проста памірае з голаду, бо ад трох дзён ня можна ніскуль дастаць вады і жыўнасьці. Лік забітых перавышае 1000 асобаў. У рэспубліцы Сан-Домінго масты і большыя забудаваньні зьнішчаны зусім.

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Уміастоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3